


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

3 жніўня 2001 года

№ 31 (328)

Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Забастоўка на агрэгатным

**СМАРГОНЬ.** Тыдзень таму на агрэгатным заводзе рабочыя аб'явілі забастоўку. Прычына — даўгі па зарплаце за май.

У дзень забастоўкі пасля заканчэння выязной сесіі абласнога Савета дэпутатаў да забастоўшчыкаў прыехаў старшыня Гродзенскага аблвыканкома **Уладзімір Саўчанка**. На гэтым тыдні на прадпрыемстве пачалі выплачваць зарплату за май.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Бясплатная паездка ў Літву

**АШМЯНЫ.** Міжнародны Балтыйскі фонд (г. Вільнюс) арганізоўвае двухдзённую бясплатную турысцкую паездку ў Літву для найменш забяспечаных, пенсіянераў ва ўзросце ад 60 год. Дзейнасць Фонду ахоплівае 6 раёнаў, у тым ліку Валожынскі, Ашмянскі, Астравецкі, Смаргонскі. За 5 паездак 150 чалавек наведаюць розныя культурныя славутасці, каталіцкія і праваслаўныя святыні. Праезд, пражыванне, харчаванне аплачвае арганізатар.

9-10 жніўня паедуць жыхары Валожыншчыны, 13-14 — Астравеччыны, 20-21 — Смаргоншчыны. Жыхары Ашмянскага раёна могуць быць уключаныя ў любую з гэтых паездак.

**Дзмітрый КАЛЯДА.**

### Новая спецыяльнасць

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сёлета палітэхнікум уводзіць новую спецыяльнасць: "эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве". Плануецца набраць 90 чалавек, 30 з іх будуць навучацца бясплатна. Новая прафесія карыстаецца папулярнасцю — конкурс складае 8 чалавек на месца.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

### «Дзіцячай» работы на месяц

**МАЛАДЗЕЧНА.** Завяршыліся асноўныя работы па добраўпарадкаванні Вялікага Гасцінца (насупраць магазіна "Дзіцячы свет"). Але, як сказаў намеснік дырэктара электрасетак **Леанід Кузняцоў**, яшчэ месяц там будуць класці плітку. На створаную пляцоўку ўстановяць столікі-"грыбы".

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

### Горад будзе з цукрам

**МАЛАДЗЕЧНА.** Два вагоны з цукрам закліканыя зняць у горадзе ажыятаж вакол "белай смерці". Дырэктар "Маладзечнагандлю" **Мікалай Віннікаў** сказаў, што яго прадпрыемства разам з УП "Вяснянка" заказалі на заводзе ў Гарадзеі па 60 тон цукру. На мінулым тыдні ў Маладзечна пайшлі вагоны з дэфіцытным летам таварам.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Новы камп'ютэрны клуб

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду ў горадзе адкрыўся прыватны камп'ютэрны клуб. Да паслуг наведвальнікаў – 8 камп'ютэраў. Гадзіна гульні каштуе 500 рублёў. На перспектыву плануецца падключыць камп'ютэры да Internet.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



### Адмена электрацягнікоў



У сувязі з правядзеннем пуцявых работ **3 жніўня** адмяняюцца электрацягнікі: адпраўленнем з Маладзечна ў 14.55 і прыбыццём з Мінска ў 14.12.

З 11.00 да 16.00 электрацягнікі будуць ісці са спазненнем.

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 4 жніўня

**Мінск**
10 – 19°С (уначы)
17 – 27°С (удзень)



**Вільня**
18°С (уначы)
27°С (удзень)



Нядзеля, 5 жніўня

**Мінск**
15 – 17°С (уначы)
24 – 25°С (удзень)



**Вільня**
12°С (уначы)
26°С (удзень)



# Канферэнцыя ў Камарове

**МЯДЗЕЛ. З суботы па панядзелак у вёсцы Камарова прайшла канферэнцыя «Практычныя і тэарэтычныя праблемы ўзнаўлення культурнага ландшафту Беларусі».**

Арганізавалі яе цэнтр грамадзянскай адукацыі Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта і мясцовае грамадскае аб'яднанне «Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю». Сабраліся прадстаўнікі аб'яднанняў, якія займаюцца ўзнаўленнем паркаў, сядзіб, інтэр'ераў храмаў у розных кутках Беларусі, эколагі, прадпрымальнікі, прадстаўнікі турфірмаў, мастацтвазнаўцы.

Асноўная ўвага на канфэрэнцыі ўдзялялася праекту ўзнаўлення гістарычна-культурнага комплексу ў Альшэве (4 км ад Камарова). Яго прадставіў дырэктар Свірскага прафесійнага ліцэя Эдуард Вайцяховіч.

На канферэнцыі былі ўдзельнікі не толькі з Беларусі, але і з Літвы, Польшчы. Прыехаў польскі мастак, скульптар Анджэй Струміла. Дарэчы, вельмі цікавы чалавек. Аб'ездзіў з выстаўкамі ўвесь свет, захапляўся альпінізмам, парусным спортам. Ён і добра дасведчаны ў пытаннях узнаўлення старых сядзіб. У сябе, у вёсцы Мацькова Руда на Сувальшчыне, нават гадуе арабскіх скакуноў.

Пану Анджэю канферэнцыя спадабалася. Найбольш за тое, што пабачыў шмат разумных, поўных ініцыятывы маладых людзей, якія рэальна займаюцца зберагannем мінуўшчыны.

**Ала ВАЙЦЯХОВІЧ.**



Фота прадастаўлена Еўрапейскім гуманітарным універсітэтам.

**Анджэй Струміла знаёміцца з выданнем краязнаўцаў рэгіёна – часопісам «Нашы карані». Гэты нумар цалкам складзены з матэрыялаў краязнаўцы з Камарова Івана Драўніцкага.**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Якую кнігу вы прачыталі апошняй?



**Аляксандр Нільва, навучэнец ПТВ-21:**
– Люблю фантастыку. Апошні раз чытаў Герберта Уэлса "Вайну сусветаў". Кніга класная, мне спадабалася.



**Валянціна Жыло, часова не працуе:**
– Джэка Лондана, зразумела. Гэта мой любімы аўтар. Перыядычна чытаю. Хаця цяпер замінаюць агароды. Акрамя чытання, захапляюся крыжаванкамі.



**Мікалай Прызба, прадпрымальнік:**
– Толькі ўчора вывучаў, праўда, не мастацкую, але кнігу – атлас па геаграфіі. А на гэтыя выхадныя скончу чытаць "Хроснага бацьку".



**Сяргей Дземеш, менеджэр:**
Каля 3 месяцаў таму прачытаў "Дзмітрыя Данскога". Аўтара ўжо не памятаю. Цяпер, улетку, нестае часу, зімой яго больш, тады можна і пачытаць.



**Сяргей Кліндзюк, навучэнец ПТВ-21:**
– Не памятаю нават, калі апошні раз чытаў кнігу. У асноўным, цікаўлюся камп'ютэрамі і чытаю, зразумела, камп'ютэрныя выданні – "Виртуальные радости", "Компьютерную газету". А так падабаецца фантастыка.



**Жанна Герасевіч, эканаміст:**
– На рабоце супрацоўніцы далі пачытаць "Толькі для заханых". Апошнім часам давялося ляжаць у бальніцы, дык чытала кожны дзень. Падабаецца гістарычная літаратура.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Хлебныя перабоі

**СМАРГОНЬ. Колькі ўжо тыдняў у вёску Куцкавічы Ардашынскага сельсавета ў назначаны тэрмін не прыязджала аўталаўка з хлебам.**

Вяскоўцы ездзілі па хлеб на конях у бліжэйшыя вёскі – Баруны і Ардашы. Як сказалі ў гандлёвым аддзеле камбікормавага завода (хлеб возяць менавіта адтуль), перабоі з хлебам узніклі з-за паломкі транспарту (аўталаўка заязджала ў Куцкавічы ў іншыя дні).

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Дэфіцыт паліваных сыркоў

**ВІЛЕЙКА. У магазінах горада зніклі папулярныя паліваныя сыркі з начыннем вытворчасці мясцовага гармалзавода.**

Як сказаў галоўны інжынер завода Пётр Чаўлытка, пуск сыркоў ідзе не на поўную магутнасць з прычыны адладкі абсталявання. Пасля гэтага, магчыма, з'явяцца новыя віды гэтага тавару.

Значнага павышэння цэн не будзе. Хіба толькі на некалькі працэнтаў у сувязі з інфляцыяй.

**Юрый КАРПІЦКІ, Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Замянілі мяса маянезам

**МАЛАДЗЕЧНА. За першыя паўгода гараджане ў 4,5 разы больш пачалі есці маянез, у 2 разы больш – піць шампанскае. Гэтыя лічбы прывяла на пасяджэнні гарвыканкома загадчыца аддзела па гандлі, грамадскім харчаванні і бытавым абслугоўванні насельніцтва Тамара Мікуліч.**

У розных прапорцыях, але тое самае тычыцца алкагольных напояў, цвёрдых і плаўленых сыроў. Затое ў рацыёнах маладзечанцаў прыкметна знізілася колькасць мяса (на 8%), кілбасных вырабаў (на 10%), масла (на 9%), яек (на 26%), кандытарскіх вырабаў (на 15%), крупаў (на 38%), мукі (на 16%).

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Гандаль працуе са стратамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Толькі тры прадпрыемствы гандлю па выніках першага паўгоддзя спрацавалі з прыбыткам.**

Гэта ГД "Няміга-Маладзечна", камбінат школьнага харчавання і УП "Вяснянка". Найбольшыя страты мае гандаль "Бізнес-цэнтра" – 65 мільёнаў рублёў.

На пасяджанні гарвыканкома першы намеснік старшыні **Яфім Ідэльчык** даручыў кіраўнікам адстаючых прадпрыемстваў у тыднёвы тэрмін прадаставіць канкрэтны план работ па выхаду з крызісу.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Знайсці і памыць бутэлькі – яшчэ не азначае ЗДАЦЬ іх. Фота IREX/ProMedia.

## Дзе здаць шклатару?

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе цяжка здаць пустыя піўныя бутэлькі. За апошнія гады півам пачалі гандляваць ці не ў кожным кіёску. Пункты прыёму шклатары не спраўляюцца з валам пустых бутэлек.**

У гэты ж час на вуліцы з'явіліся людзі, якія жывуць тым, што выручаць ад збору бутэлек ды макулатуры. Сваю справу яны робяць адмыслова. І атрымалася, што ў Маладзечне, ды і не толькі тут, назіраецца класічная перавага прапановы тары над яе попытам за кошт увозу імпартнага тавару. Бо айчынныя піўзаводы збіраюць толькі "свае" бутэлькі.

Ля кіёска насупраць магазіна №61 чарга жадаючых здаць тару стаіць штодня ад шасці раніцы. На пятачку ля магазіна працуе з дзесятак пунктаў, дзе прадаюць піва. А прымаюць бутэлькі толькі ў адным. Штодзённыя чэргі ліквідавалі толькі на гэтым тыдні. Ды і то прычынай стала абмежаванне дзён і часоў прыёму шклотары.

Уладальнікаў кіёска можна зразумець. Новаўвядзенне яны патлумачылі тым, што кіёск – гэта не прыёмны пункт. Бутэлек ім патрэбна роўна столькі, колькі піва яны рэалізуюць.

Праблему з прыёмам тары ўзнімалі на мінулым пасяджанні гарвыканкома. Старшыня Мікалай Чурсін прапанаваў загадаць прадпрымальнікам прымаць тару хаця б у той колькасці, якой прадаюць. І папрасіў першага намесніка Яфіма Ідэльчыка вырашыць праблему.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ БУДОЎЛІ

## Грошы на СШ №14 не паступілі

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулым нумары мы крыху прыспешылі падзеі: на будаўніцтва школы ў шостым мікраараёне 2 мільярды рублёў, на жаль, яшчэ не паступілі.**

Намеснік старшыні гарвыканкома па будаўніцтве **Мікалай Воранаў** удакладніў, што, сапраўды, Савет Міністраў сумесна з аблвыканкомам павінен выдзеліць 2 мільярды.

Работы па школе прыпынены. Затое ў заказчыка ёсць запазычанасць перад генпадрадчыкам МПМК-212 у 159 мільёнаў рублёў. Між тым, каб увесці школу да пачатку навага навучальнага года, па тэхналогіі сцены і дах патрэбна ўзвесці да Новага года.

Сілы, каб гэта зрабіць своечасова, ёсць. Справа за фінансавымі рэсурсамі. Ад горада дапамогі чакаць не прыходзіцца.

На будаўніцтва Дома Культуры выдзелена 2,5 мільярды з аблвыканкома. Дадаткова 500 мільёнаў з рэзервовага фонду ў горад пералічаныя.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Чыгуначнаму прыпынку замінае вада

**МАЛАДЗЕЧНА. Ліўні, што прайшлі на мінулым тыдні, ускладнілі работы па ўзвядзенні чыгуначнага прыпынку ля шостага мікраараёна.**

Да ўсяго, там нізіна, таму праблемы з вадой у будаўнікоў былі і раней. Хаця не да такой ступені, як на мінулым тыдні, калі паралізавала работы на платформе.

Дырэктар ААТ "Будаўнік-197" Пётр Сянько гаворыць, што ўчора там прыступілі да работ, хаця вада раніцай яшчэ была. Але яе будуць выпампоўваць і працаваць.

Павільён будуецца па плане. Шанцы, каб увесці прыпынак да 1 верасня, вялікія.

– Цяжка, але яшчэ месяц наперадзе, таму мы не страчваем аптымізму, – лічыць П. Сянько.

На будоўлі занята 40 чалавек ад ААТ "Будаўнік-197" і ААТ "Спецбудмеханізацыя". Плюс 5 рабочых штодня дае чыгунка. Гэта дастаткова, больш чалавек на тым пятачку будуць замінаць адно аднаму. Працаваць будуць і па выхадных. На бліжэйшых – дакладна. Раней то дажджы ішлі, то "вокнаў" у раскладзе электрычак не давалі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



У аўторак на новым чыгуначным прыпынку.

## Курсы валют НБ РБ

| | 26 ліпеня | 2 жніўня |
|---|---|---|
| Долар | 1406,00 руб. | **1419,00** руб. |
| Нямецкая марка | 627,69 руб. | **638,79** руб. |
| Літ | 351,45 руб. | **354,71** руб. |
| Расійскі рубель | 48,07 руб. | **48,43** руб. |
| Злоты | 334,80 руб. | **332,70** руб. |
| ЕЎРА | 1227,65 руб. | **1249,36** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1440 – 1460 руб. | **1450 – 1470** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 25.07 | 1.08 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2300 | 2200 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7300 | 7160 |
| Сасіскі, 1 кг | 3100 | 3100 |
| Селядзец, 1 кг | 1650 | 1650 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 430 | 430 |
| Цукар, 1 кг | 789 | 765 |
| Алей, 1 л | 850 | 880 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680 | 500 |
| Маянэз, 200 г | 280 | 280 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 500 | 500 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 400 | 400 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 600 | 500 |
| Капуста, 1 кг | 200 | 300 |
| Агуркі, 1 кг | 250 | 500 |
| Памідоры, 1 кг | 600 | 850 |
| Лімоны, 1 кг | 1600 | 1750 |
| Апельсіны, 1 кг | 1800 | 1600 |
| Кавуны, 1 кг | 600 | 500 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1100 | 1000 |
| Масла, 1 кг | 2200 | 2400 |
| Тварог, 1 кг | 600 | 800 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 1000 |
| Бульба маладая, 1 кг | 200 | 250 |
| Морква, 1 кг | 600 | 500 |
| Чарніцы, малое вядро | 3500 | 2500 |
| Чорныя парэчкі, малое вядро | 2500 | 2500 |
| Чырвоныя парэчкі, малое вядро | 1000 | 900 |
| Маліны, малое вядро | 4500 | 6000 |
| Вішні, малое вядро | 2500 | 2000 |
| Агрэст, малое вядро | 3000 | 3000 |
| Сліва, малое вядро | | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | | 250 |

■ КОНКУРСЫ

## Лепшы падворак

**ВІЛЕЙКА. Райвыканком падвёў вынікі конкурсу на лепшы маладзёжны падворак.**

Першае месца і кухонны камбайн атрымалі Андрэй і Алена Анасовічы з вёскі Рабунь. Другое – Аксана і Міхаіл Міцкевічы з Куранца (прыз – кававарка). Трэцяе – Марыя і Мікалай Ляшкевічы з вёскі Хадасы (прыз – электрачайнік).

Сёлета з-за недахопу грошай узнагароджвалі толькі тры першыя месцы, у той час як раней – трынаццаць (па адным падворку ў кожным сельсавеце).

**Юрый КАРПІЦКІ, Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

**Выбары-2001**



Да выбараў прэзідэнта засталося **37** дзён

■ **ГОЛАС НАРОДА**

**(«ГАРАЧЫ» ТЭЛ. 6-96-67)**

**Дзмітрый, Маладзечна, рабочы:**

*— Нягледзячы на тое, што да выбараў засталося зусім мала часу, я не бачу альтэрнатывы Лукашэнку. Не скажу, што першы прэзідэнт Беларусі спраўляецца са сваімі абавязкамі. Але я не магу пакуль уявіць, як мы будзем жыць пры іншым прэзідэнце. Ды і хто ім будзе? Да гэтага часу я не ведаю, чым адрозніваюцца Ганчарык ад Домаша ці, прыкладам, Гайдукевіча. Увогуле, іх прозвішчы я ўпершыню нядаўна ўбачыў у "РГ".*

## «Happy Face»

ВІЦЕБСК. Тут прайшоў канцэрт «Рок — твой выбар». «Калі моладзь не вызначыцца на выбарах, гэта зробяць за яе», — прагучала са сцэны.

Што тычыцца музыкі, то самыя большыя сімпатыі віцебскіх меламанаў выклікаў "Happy Face" з Маладзечна. Канцэрты «Рок — твой выбар» пройдуць па ўсёй Беларусі.

**По матэрыялах "Цэнтра маладзёжных ініцыятываў "Контур".**

## Пагроза перавароту?

Лідэры беларускай апазіцыі выступілі з экстранным зваротам да народу краіны ў сувязі з выступленнем А. Лукашэнкі 31 ліпеня.

Па іх словах, у гэтым выступленні «ўпершыню свядома была агучаная пагроза дзяржаўнага перавароту і раскрытая тэхналогія яго ажыццяўлення». Апазіцыя ўпэўненая, што ў барацьбе за ўладу Лукашэнка можа кінуць супраць народу ўнутраныя войскі.

**Па матэрыялах электроннай газеты lenta.ru.**

■ **ВЫБАРЫ «РГ»**

## Лідзіруюць Домаш і Гайдукевіч

Вынікі першага тура галасавання: У апытанні паўдзельнічалі 18 чалавек. У пары Гайдукевіч – Лукашэнка лік 10:2 на карысць першага. 6 чалавек прагаласавалі супраць абодвух.

Больш упартая барацьба была ў пары Домаш – Ганчарык. Тут лік 11:6 пры адным голасе супраць усіх.

### 2 тур

На гэтым тыдні спаборнічаюць Домаш – Лукашэнка і Гайдукевіч – Ганчарык.

Тэлефануйце 69667 і аддайце свой голас за таго ці іншага кандыдата з кожнай пары. Асабліва запрашаем актывізавацца прыхільнікаў тых кандыдатаў, што прайгралі ў першым туры.



Аляксандр Лукашэнка, 1954.



Сямён Домаш, 1950.



Сяргей Гайдукевіч, 1954.



Уладзімір Ганчарык, 1940.

**Падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## За каго б вы аддалі свой голас?

МАЛАДЗЕЧНА. Наколькі падрыхтаваны электарат да ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах, можна меркаваць па выніках невялікага апытання, што прайшло ў аўторак:

1. Ці ведаеце вы тых, магчымых кандытатаў?
2. За каго вы б аддалі свой голас?
3. Чаму менавіта за яго?

У апытанні ўдзельнічала 50 маладзечанцаў. 39 чалавек не ведае прозвішчаў чацвёркі прэтэндэнтаў, 24 чалавекі не вызначыліся ў сваіх перавагах. 14 апытаных з ліку тых, якія не ведаюць большасці ўдзельнікаў марафону, будуць галасаваць толькі за дзеючага прэзідэнта. Некаторыя не змаглі патлумачыць, чаму будуць ставіць "птушачку" насупраць прозвішча Лукашэнкі. Іншыя зыходзяць з прынцыпу: стары сябар лепш за новых двух.

Сустракаліся і апалітычныя асобы, якім усё роўна, хто апынецца заўтра ля руля Бацькаўшчыны.

Першае месца ў рэйтынгу папулярнасці займае спадар "Не ведаю" – 24 чалавекі, другое належыць Аляксандру Лукашэнку – 22 чалавекі. Толькі двое сімпатызуюць Уладзіміру Ганчарыку.

**Вольга КАСЯКОВА.**

## Сямён Домаш: галоўнае яшчэ наперадзе

**Апошнім часам у рэдакцыю звяртаюцца чытачы з просьбай патлумачыць сітуацыю з былой "пяцёркай" магчымых кандыдатаў у прэзідэнты. Маўляў, абралі Ганчарыка адзіным кандыдатам, але ж каманда Домаша працягвае працаваць. І ці не ўсе дадзеныя сведчаць пра тое, што ў Домаша больш шанцаў на пасаду прэзідэнта, чым у Ганчарыка. Некаторыя лічаць, што на кандыдатуры лідэра афіцыйных прафсаюзаў па нейкіх прычынах спыніліся менавіта тыя члены "пяцёркі", якія не змаглі набраць па 100 тысяч подпісаў. Прапануем інтэрв'ю з Сямёнам Домашам, атрыманае з прэс-службы магчымага кандыдата ў прэзідэнты.**

**— Як бы вы ацанілі работу сваёй каманды на першым этапе выбарчай кампаніі ?**

— Па-першае, хацеў бы падзякаваць тым грамадзянам, якія паставілі подпісы ў маю падтрымку. У нашых умовах гэта патрабавала грамадзянскай мужнасці. Мы здалі ў выбарчыя камісіі 161 тысячу подпісаў – значна больш, чым іншыя кандыдаты ад апазіцыі. У ходзе збору подпісаў штабы іншых прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду давалі ашаламляльныя лічбы, але калі прыйшлося здаваць, многія мыльныя бурбалкі лопнулі. Лепшая дынаміка станоўчага рэйтынгу, рост пазнаваемасці – усё гэта вынік самаадданай работы нашай каманды. І па колькасці, разгалінаванасці структур, якія мяне падтрымліваюць, мы таксама адчувальна апярэджваем групы падтрымкі іншых кандыдатаў.



Фота з архіва «РГ».

Сямён Домаш выступае на нядаўнім Кангрэсе беларускай моладзі.

**— У сувязі з гэтым сёння многія па-ранейшым у неўразуменні. У вас устойлівы і дынамічны рост рэйтынгу. Вашая ініцыятыўная група спрацавала найбольш вынікова. Прычым, вашыя аднадумцы не абмежаваліся толькі вялікімі гарадамі, яны збіралі подпісы, у асноўным, у рэгіёнах, што павысіла вашу вядомасць. Чаму ж на пасяджанні "пяцёркі" было названа не вашае імя?**

— Часткова на рашэнне паўплывала тое, што ў дзень пасяджэння "пяцёркі" былі яшчэ невядомыя вынікі збору подпісаў. У той час мы не ведалі, што толькі двое з нас пераадолелі стотысячны рубеж. І Чыгір, і Калякін, і Казлоўскі заяўлялі, што ў іх ёсць неабходная колькасць подпісаў. У мяне, прыкладам, не было падставаў не верыць ім. Мы адкрыта абмяркоўвалі перавагі і недахопы адно аднаго. Пазіцыя большасці ўдзельнікаў была такая, што найбольш аптымальнай на гэтым этапе кампаніі з'яўляецца кандыдатура Ганчарыка. Нас падштурхоўвалі да таго, «каб не дамовіцца». Напярэдадні сустрэчы "пяцёркі" запусцілі серыю чутак. І скіраваныя яны былі, перш за ўсё, супраць мяне. Для мяне было важна ў гэты момант захаваць адзінства. У жыцці я імкнуўся падпарадкоўваць свае прыватныя інтарэсы, амбіцыі інтарэсам справы, грамадства. І цяпер – дзеля адзінства ўсіх здаровых сіл грамадства я саступіў на гэтым этапе.

**— Ведаю, што ў вашай камандзе не ўсе былі згодныя з такім рашэннем?**

— Сапраўды, многія члены маёй каманды лічаць рашэнне "пяцёркі" несправядлівым і памылковым. Яны выказваюць сур'ёзныя папрокі ў мой адрас за тое, што я згадзіўся на такое рашэнне пасяджэння. Маіх аднадумцаў можна зразумець. Яны добра бачылі, як працавалі каманды іншых прэтэндэнтаў. Ды і вынікі збору подпісаў вельмі паказальныя. Наш штаб літаральна закідалі факсамі рэгіянальныя прадстаўніцтвы партый і грамадскіх аб'яднанняў – яны пратэстуюць супраць рашэння "пяцёркі". Так што не ўсё так проста і адназначна.

**— Вы сыходзіце з дыстанцыі?**

— Вядома, не. На сустрэчах "пяцёркі", якія прайшлі пасля аб'явы папярэдніх вынікаў збору подпісаў, мы дамовіліся, што і я, і Ганчарык ідзем на рэгістрацыю.

**— На якіх прынцыпах будзе фарміравацца штаб адзінага кандыдата?**

— Штаб Ганчарыка, натуральна, умацуецца за кошт каманд Чыгіра, Казлоўскага і Калякіна. Некалькі чалавек будуць дэлегаваныя і з майго штаба. Але мая каманда застаецца працаваць са мной. Я хачу гэта падкрэсліць, таму што ў апошні час у друку з'явілася інфармацыя, што я кідаю ўсё і пераходжу ў штаб Ганчарыка адказным па Гродзенскай вобласці. Гэта падман. Нядаўна я звярнуўся да членаў маёй ініцыятыўнай групы, да маіх аднадумцаў з заклікам не апускаць рукі. Мы працягваем удзельнічаць у кампаніі. Ды і праверка подпісаў і іх абарона – вельмі адказная праца. Важна не толькі сабраць подпісы, але і адстаяць іх, каб быць зарэгістраванымі. Цяпер мы сканцэнтравалі ўвагу менавіта на гэтай рабоце.

**— Якая ж цяпер тактыка вашай каманды?**

— Канчатковае рашэнне будзе прынятае пасля рэгістрацыі кандыдатаў. Цяпер шмат няяснага. Паглядзім, каго зарэгіструюць, якая палітычная канфігурацыя атрымаецца праз два тыдні. Потым мы з Уладзімірам Ганчарыкам прымем узгодненнае канчатковае рашэнне аб тактыцы далейшай барацьбы. Акрамя таго, "пяцёрка" прыняла рашэнне аб запасных сцэнарыях, якія абнародаваць яшчэ не прыйшоў час. А пакуль мы працягваем кампанію. Я заклікаю ўсіх сваіх аднадумцаў быць у стане павышанай мабілізацыі. Барацьба за вызваленне Беларусі ад "эскадронаў смерці" яшчэ толькі пачалася.

**Міхаіл КАРНЕВІЧ.**

■ **ТЭЛЕБАЧАННЕ**

# ЗАЯВА

## прафбюро Дырэкцыі перспектыўнага вяшчання Першага нацыянальнага канала

На Белдзяржтэлерадыёкампаніі адбылася чарговая змена кіраўніцтва. Замест В. Чыкіна, які не працаваў раней у сістэме тэлебачання, на пасаду старшыні прызначаны В. Скварцоў, які шмат гадоў аддаў радыё і тэлебачанню. З ягоным прыходам шмат хто з нас звязвае надзеі на якасныя змены ў вяшчанні і псіхалагічным клімаце ў калектыве, што быў дэстабілізаваны дзейнасцю папярэдняга кіраўніцтва кампаніі.

Год таму, прэзентуючы старое кіраўніцтва, А. Лукашэнка сказаў, што калі гэтая каманда не справіцца з працай, дык сыдзе ў адстаўку ў поўным складзе. За мінулы год пад прыкрыццём арганізацыйных і творчых зменаў адбылося разбурэнне тэлебачання. З экрана беспадстаўна знятыя праграмы сацыяльна-эканамічнай скіраванасці, мастацка-асветніцкага, маладзёжнага, дзіцячага вяшчання. Без тлумачэнняў былі адхіленыя ад эфіра дзесяткі найбольш дасведчаных прафесіяналаў. Пры гэтым прапанаваныя імі праекты новых перадач не прымаюцца да разгляду або іх ідэі раскрадаюцца са згоды адміністрацыі. Тым часам ільвіная доля неінфармацыйнага вяшчання беспадстаўна перададзеная некалькім недзяржаўным тэлекампаніям, за што кіраўніцтва БТ выплачвае ім неверагодныя грошы.

Паколькі ўсё гэта шкодзіць інтарэсам гледачоў, а шмат хто з тэлевізійшчыкаў пазбаўлены права на прафесію, прафбюро Дырэкцыі перспектыўнага вяшчання, якая аб'ядноўвае практычна ўсіх творчых супрацоўнікаў Першага нацыянальнага канала:

— выказвае недавер першаму намесніку старшыні НДТРК Рыбакову Я. У., генеральнаму прадзюсеру Хрусталёву Я. В., генеральнаму дырэктару Дамарацкаму А. М.;

— прапануе дэмакратычна абраць мастацкі савет Першага нацыянальнага канала ў адпаведнасці з існуючым палажэннем;

— патрабуе стварыць грамадскі назіральны савет для кантроля над захаваннем прынцыпаў журналісцкай этыкі і правоў грамадзян на атрыманне аб'ектыўнай інфармацыі з удзелам прадстаўнікоў творчых саюзаў і грамадскіх арганізацый краіны;

— патрабуе праверкі фінансавай дзейнасці кіраўніцтва НДТРК ў працы з недзяржаўнымі тэлекампаніямі;

— пакідае за сабой права звярнуцца ў суд з зыскам па фактах парушэнняў нормаў працоўнага заканадаўства і фінансавай дысцыпліны.

**Віталь Сямашка, Людміла Мельнікава, Ганна Арцюшкевіч, Зоя Латун, Алена Давыдава, Віктар Калашнік, Ала Салаўёва, Святлана Шафранская, Ларыса Андрэева.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

Маладзечна, 27 ліпеня, скрыжаванне Вялікага Гасцінца і вуліцы Хмяльніцкага, раніца. У горадзе яшчэ ёсць людзі, якія памятаюць, што Дэкларацыю аб Незалежнасці Беларусі прынялі 11 год таму – менавіта 27 ліпеня. Некалі дзяржаўны (гістарычна – гэтага не адменіш – ён з'яўляецца нацыянальным) бела-чырвона-белы сцяг раз-пораз нагадвае пра гэта ў гарадах рэгіёна.

 



■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Стрыпейкіс і кампанія: два разы па 4:0

**28.07 Славія (Мазыр) – Маладзечна-2000 4:0 (2:0)**

**Арбітр** – Ясінскі (Мінск), 1500 гледачоў.

**Галы**: Стрыпейкіс (10, 70, 90), Васіч (35).




**Папярэджанні** – Тартоўскі, Азаронак (чацвертае ў сезоне).

Маладзечанцы хацелі згуляць надзейна ў абароне, як гэта ўдалося за два дні да справаздачнага матча славацкаму "Інтэру", які ў рамках Лігі Чэмпіёнаў прыязджаў у Мазыр і перамог. На жаль, майстэрства нашых землякоў аказалася адпаведным іх цяперашняму статуту аўтсайдэраў.

Пачалося з памылкі **Бычкоўскага**, якую скарыстаў **Лукашэнка**, які аддаў галявы пас **Стрыпейкісу**. Потым на выхадзе рукамі не дацягнуўся да мяча **Рубацкі**, і **Васіч** галавою падвоіў лік. Пад заканчэнне гульні двойчы забіў Стрыпейкіс (сёлета ў чэмпіянаце ён забіў 8 галоў, з іх 5 у – вароты "Маладзечна-2000"), калі выкарыстоўваў свабоду, што давалі абаронцы. Спробаў небяспечна атакаваць у выкананні гасцей амаль не назіралася.

Дынама (М) – Белшына 0:1, Днепр-Трансмаш – Шахцёр 2:2, Нёман-Белкард – Дынама (М) 1:1, БАТЭ – Гомель 1:0, Тарпеда-МАЗ – Нафтан 2:1, Лакаматыў-96 – Ведрыч-97 2:0, Белшына – Дынама (Б) 3:2, БАТЭ – Дынама (М) 1:3.

| | |
|---|---|
| 1. БАТЭ | 32 |
| 2. Белшына | 32 |
| 3. Нёман-Белкард | 26 |
| 4. Славія (-1) | 23 |
| 5. Дынама (М) (-1) | 23 |
| 6. Шахцёр | 23 |
| 7. Тарпеда-МАЗ (-1) | 21 |
| 8. Гомель | 20 |
| 9. Днепр-Трансмаш | 20 |
| 10. Дынама (Б) | 16 |
| 11. Лакаматыў-96 | 13 |
| **12. Маладзечна** | **12** |
| 13. Ведрыч-97 (-1) | 7 |
| 14. Нафтан | 4 |

**Бамбардзіры**: Кутузаў (БАТЭ) – 12; Давыдаў (Нёман-Белкард) – 11.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КАМЕНТАРЫЙ «РГ»

# Ні абароны, ні атакі

Такім чынам, прыйшоў час буйнога гульнявога крызісу "Маладзечна-2000". Крыўдна нават не тое, што каманда апынулася на апошнім з выратавальных, 12 месцы. Гэта ў дачыненні да апошняга тура якраз добра, бо, калі б віцябчане не перамаглі "Ведрыч-97", то ён набраў бы ачкі і наблізіў небяспечную зону ўшчыльную да маладзечанцаў. Так жа пакуль застаецца 5 ачкоў гандыкапу, а ў прапушчаным матчы, будзем спадзявацца, рэчычане саступяць "Славіі".

Наогул, закранаць тэму магчымага расставання з лігай пакуль ранавата. Яна ўсплыве тады, калі давядзецца сустракацца з канкурэнтамі за месца пад сонейкам. Цяпер жа канстатуем факт. Пасля 7 тура наша каманда была на 6 месцы, але згубіла шанец застацца ў серадняках – набрала ў наступных 7 матчах 1 ачко.

Не ладзяцца справы ні ў абароне, ні ў атацы. На жаль, не дадаў у сваёй гульні на працягу сезона ні адзін з варатароў. Ні асноўныя (**Рубацкі, Сцепановіч**), ні дублёры (**Асадоўскі, Мароз**). Другі круг матчам на выездзе супраць чэмпіёна краіны пачалі з двума навічкамі ў абароне (**Ваўчок, Сарасек**), якія дагэтуль не праходзілі ў аснову сваіх ранейшых клубаў. Неўкамплектаванасць складу кідаецца ў вочы.

Нападаючыя **Макрыцкі** і **Сідарэнка**, якія, па меркаваннях перад сезонам, павінныя былі рваць і мятаць, мала чым запомніліся ў мінулых матчах. Так, на полі яны прысутнічалі, але што рабілі? **Турчыновіч** крыху забіў (тройчы), прычым заўсёды адкрываў лік у матчах. Два з іх, урэшце, былі прайграныя. Ці тое партнёры не могуць падтрымаць пачынанне форварда, ці тое ён сам лічыць сваю справу на гэтым зробленай? Ва ўсялякім выпадку не відаць, каб дасведчаны футбаліст здолеў павесці каманду за сабою.

Навідавоку праблемы і ў сярэдняй лініі, хаця не такія сур'ёзныя. Траўмы **Міхалёва і Мігаса**; нявызначанасць з апорным і з правым хаўбекамі; штоматч даводзіцца затыкаць розныя дзіркі ў складзе **Азаронку**.

Кожная маладая каманда праходзіць стадыю станаўлення, падчас якой могуць быць і крыўдныя галы з цэнтра поля (ад віцябчан), і дамашняе паражэнне 0:3 (ад гродзенцаў), і тры прапушчаныя галы на апошняй пяціхвілінцы (у Магілёве). Аднак надыходзіць момант, калі гэтыя памылкі пачынаюць паўтарацца. 4 матчы запар прапускаецца 3 ці больш галоў. Мазыранам абодва разы прайгралі па 0:4.

Маладзечанцам давядзецца не гульню сваю шукаць, а змагацца за кожнае ачко.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ ДЗІЦЯЧЫ ФУТБОЛ

**МІНСК.** Днямі прыйшла прыемная навіна з Гётэборга: мінская «Алімпія» (хлопчыкі 12 год) пад кіраўніцтвам **Міхаіла Шутовіча**, які трэніраваў ФК «Маладзечна» у міжсезонне-99, на неафіцыйным чэмпіянаце свету па футболе «Готыя Кап» (1238 каманд) дайшла да чвэрцьфіналу і заняла пятае месца. Каманда атрымала прыз самага перспектыўнага калектыву, які ўпершыню браў удзел у «Готыя Кап».

**Юлія ВАНСЛАЎ.**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**28.07 Дынама-2 (Мінск) – Смаргонь 0:2 (0:1)**

**Галы**: Селіванаў (24), Відук (84).

**Склад**: Шэлест, Іваноў, Чарнуха, Курак, Максіменка (Відук, 46), Якубіцкі, Дукса, Селіванаў, Дзігілевіч, Шагойка (Карабінскі, 85), Шпакоўскі (Шаблінскі, 70).

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Лакаматыў | 0:1 | 0:1* | 17 | 14 | 2 | 1 | 41-7 | 44 |
| 2. Вертыкаль | 1:0 | 1:3* | 17 | 12 | 3 | 2 | 27-11 | 39 |
| **3. Смаргонь** | **##** | **0:2*** | **17** | **12** | **2** | **3** | **32-7** | **38** |
| 4. Баранавічы | 2:0 | 1:4* | 17 | 9 | 4 | 4 | 32-17 | 31 |
| 5. СКАФ | 1:2* | 0:1 | 17 | 9 | 4 | 4 | 19-17 | 31 |
| 6. Пінск-900 | 2:0* | 3:2 | 17 | 9 | 2 | 6 | 36-17 | 29 |
| 7. РВАР | 1:0 | 0:0* | 16 | 7 | 5 | 4 | 25-12 | 26 |
| 8. Днепр | 1:2* | 0:2 | 17 | 8 | 1 | 8 | 26-22 | 25 |
| **9. Забудова** | **2:0** | **##** | **17** | **8** | **1** | **8** | **19-24** | **25** |
| 10. Гомель-2 | 0:0* | 1:0 | 17 | 7 | 4 | 6 | 18-24 | 25 |
| 11. Рудзенск | 2:0 | 1:0* | 17 | 7 | 2 | 8 | 36-24 | 23 |
| 12. Дынама-2 | 2:0 | 0:4 | 16 | 7 | 1 | 8 | 21-23 | 22 |
| 13. Верас | 1:0* | 0:1 | 17 | 6 | 4 | 7 | 17-20 | 22 |
| 14. Старыя Дарогі | 1:1* | 2:1 | 17 | 5 | 3 | 9 | 23-22 | 18 |
| 15. Трактар | 4:1 | 3:2* | 17 | 4 | 3 | 10 | 19-26 | 15 |
| 16. Пр. рэзервы | 2:0* | 1:0 | 17 | 3 | 5 | 9 | 21-22 | 14 |
| 17. Палессе | 3:0 | 4:1* | 17 | 2 | 0 | 15 | 12-58 | 6 |
| 18. Змена | 7:0 | 2:0* | 17 | 0 | 0 | 17 | 5-76 | 0 |

**Бамбардзіры**: Асіпенка (Лакаматыў) – 14; Якубовіч (РВАР) – 12; Рэпецкі (Пінск-900) – 10.

**Зорачкай** пазначаны дамашнія матчы.

**Галы** ў першым крузе забівалі.

**"Смаргонь"**: Шпакоўскі – 7; Каўрыга – 6; Шаблінскі – 5; Селіванаў – 4; Відук, Дзігілевіч – па 3; Чарнуха – 2; Дукса, Шпілеўскі – па 1.

**"Забудова"**: Міравовіч – 9; Дзіковіч, Казлоўскі, Татун, В. Урублеўскі – па 2; Парашчанка, Садчанка – па 1.

■ ДРУГАЯ ЛІГА

# Тры пытанні пасля 1 круга кіраўнікам «Забудовы» і «Смаргоні»

1. Ацэнка паказанага выніку; лепшыя матчы.
2. Матэрыяльнае становішча клуба.
3. Змены ў складзе.

Адказвалі галоўны трэнер "Смаргоні" **Андрэй Майсейчанка**, начальнік каманды "Забудова" **Мікалай Мятліцкі (М. М.)** і яе галоўны трэнер **Руслан Лукін (Р. Л.)**.

## Для смаргонцаў першая ліга – рэальнасць

1. Вынік задавальняе. Крыўдна, што страчвалі ачкі дома, тады як на выездзе выглядалі больш разняволена. Таксама і гульнёй задаволеныя. Сапернікі не сталі слабейшымі ў параўнанні з мінулым сезонам, за выключэннем "Палесся" і "Змены". Мы правялі добрую перадсезонную падрыхтоўку. Задаволеныя абаронай, нападзеннем. У сярэдней лініі крыху не хапае мабільнасці. Надзейна гуляе **Шэлест**.

Цяжкая і, урэшце, радасная па выніку гульня ў Калінкавічах з "Вертыкаллю", што трымала ў напружанні да апошняга і гульцоў, і трэнераў. Запомніўся матч з "Баранавічамі". Лёгка было супраць "Змены", якой да перапынку забілі ўсе сем мячоў. Хацелі давесці лік да 10:0, аднак не ўдалося. Важным быў стартавы матч ў Чысці.

2. Заўсёды хочацца лепшага матэрыяльнага становішча. У нас яно стабільнае, нармальнае. Вельмі дапамагае раённы бюджэт. Ёсць невялічкія праблемы з прэміяльнымі, але, спадзяюся, хутка яны здымуцца. Па сёлетнім фінансаванні ўдзел у першай лізе мы не пацягнулі б. Правільна зрабілі, што адмовіліся ў міжсезонні ад прапановы абласной федэрацыі замяніць там мастоўскі "Нёман", у якога сітуацыя куды горшая. Будзем прабівацца наверх сваімі сіламі. Першая тройка каманд зрабіла значны адрыў. Пуцёўкі толькі дзве, але ж, відаць, і трэцяе месца дасць нам магчымасць перайсці ў першую лігу. Будзем змагацца. І вельмі хочацца лепш гуляць дома, пры сваіх балельшчыках.

3. Дазаяўляем чатырох чалавек. Нападаючых **Аляксея Фаміна** (1980 г. н.) са "Старых Дарог" і **Ігара Кошаля** з жодзінскага "Тарпеда" (1 ліга; 1979; у сезоне-98 выступаў за смаргонцаў), паўабаронцу **Ігара Паркулевіча** са "Свіслачы" (1 ліга; 1971; шмат пагуляў у вышэйшай лізе), абаронцу **Андрэя Пагоцкага** з "Трактара". Ставім задачу мець два раўназначныя склады, каб у гульцоў не назапашвалася стомленасць. І ў першым крузе шмат вар'іравалі складам, што, безумоўна, дапамагала. Няма ўжо ў камандзе **Шыманоўскага**, а Дуксу, магчыма, прададзім маладзечанцам, але да канца сезона ён застанецца ў нас у арэндзе.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Паўабаронца «Смаргоні» Уладзіслаў Дукса пасля траўмы выступае на добрым узроўні. «Бачу першую лігу?»**

## У «Забудовы» мала грошай

**Ад аўтара – замест адказу трэнераў на трэцяе пытанне.**

У складзе чысцінцаў адбыліся значныя змены. Яшчэ на працягу першага круга ўліліся ў каманду прыезджыя навічкі **Аляксандр Урублеўскі** (1977), **Аляксандр Астапенка** (1976), **Сяргей Парашчанка** (1981) і трое чысцінскіх юнакоў 1985 года нараджэння **Дзяніс Бяспалы, Дзмітрый Кавальчук, Андрэй Фалей**. Пакінулі "Забудову" **Мядзведзеў, Дзіковіч, Казлоўскі, В. Урублеўскі, Чумак, Парашчанка**. На армейскую службу вернуты недысцыплінаваны ў трэніровачным працэсе **Татун**; пакінуў Чысць **Рыгаровіч**, які аднавіўся пасля траўмы; цяпер сур'ёзна траўміраваны **Мацюк**. Папоўняць каманду з другога круга **Аляксандры Мароз** (1982) і **Чарнель** (1981) з "Маладзечна-2000", **Сяргей Івашкевіч** (1973) і **Вячаслаў Ваўчок** (1974) з "Беразінскага". Усе гэтыя футбалісты выступалі ў "Забудове" ў мінулыя сезоны. На праглядзе знаходзяцца яшчэ трое прыезджых хлопцаў.

1-2. **М. М.**: У нас нармальная рабочая абстаноўка, рыхтуемся да другога круга. Правялі 5-дзённы збор. На жаль, прэміяльныя хлопцам не плацяць, ёсць часам затрымкі з зарплатай, аднак гэта рабочыя нюансы. Увогуле, мы не з самых бедных клубаў лігі.

Страчвалі ачкі ў дамашніх матчах, 4 разы прайгралі. У адваротным выпадку маглі б быць недзе на 4-5 месцы. Настройваемся як след правесці другі круг.

**Р. Л.**: Напачатку першага круга мелі добрую каманду па складзе гульцоў, якой па плячы былі высокія задачы. Аднак з-за матэрыяльных праблемаў футбалісты пакінулі "Забудову". Цяпер з таго складу засталіся толькі **Балыкін, Садчанка, браты Канапелькі, бацька і сын Мятліцкія**. У нас таксама цяжкасці і з інвентаром. Прыкладам, трэніруемся толькі трыма мячамі. Натуральна, каманда працягне існаваць, гуляць, аднак, як складзецца другі круг, прадказваць вельмі складана. Шмат навічкоў, пакуль робім акцэнт на іх фізічнай падрыхтоўцы. Бліжэйшыя 2-3 матчы пакажуць, чаго чакаць ад абноўленага складу.

Шмат парушалі правілы. Тлумачу гэта тым, што хлопцам не хапала майстэрства і вытрыманасці ў найбольш складаных эпізодах матчаў. Маем толькі адну нічыю. Гэта азначае, што заўсёды настройваліся на перамогу, на самы станоўчы вынік, нават у сустрэчах з лідэрамі. Мне спадабалася, як мы дзейнічалі ў матчах з "Вертыкаллю" і "Лакаматывам".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ДУБЛЬ

**27.07 Славія – Маладзечна-2000 3:0**

**Галы**: (41), (53), (67).

**Склад**: Сцепановіч (Асадоўскі, 63), Дрозд, Відрук (кап.), Альховік, Муравейнікаў, Вільтоўскі (Асіповіч, 63), Лявончык, Дараховіч, Матусевіч, Антановіч, Макрыцкі (Харэцкі, 46).

Усе атакі гасцей спыняліся на подступах да штрафной. У першым тайме ішла роўная гульня і толькі адна памылка ў абароне прывяла да гола. За другія 45 хвілін маладзечанцы памыляліся больш, што скарыстаў лепшы бамбардзір сярод дублёраў **Аляксандр Кліменка**. Ён вызначыўся двойчы.

У гасцей у другой палове сустрэчы не згубіўся на полі дэбютант – **Харэцкі**.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Заявачная кампанія «Маладзечна-2000»

Дазаяўленыя абаронцы **Дзмітрый Ваўчок** (1976 года нараджэння; 12 матчаў у вышэйшай лізе, з іх 11 у складзе "Маладзечна" ў сезоне-99 і 1 – у складзе "Тарпеда-МАЗа" ў сезоне-00), **Ігар Сарасек.** (1980; у вышэйшай лізе не гуляў, быў у заяўцы БАТЭ).

Адзаяўленыя **Павел Шаўроў, Аляксандр Чарнель, Аляксандр Мароз, Алег Чатырка, Аляксандр Фірсанаў.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**03.08 Дубль: Шахцёр (Салігорск) – Маладзечна-2000**
У першым крузе 0:0 дома.

**04.08 Шахцёр (Салігорск) – Маладзечна-2000**
+7=4-6 16-12. У першым крузе 0:0 дома.

**05.08 16-00 Смаргонь – Забудова**
5 разоў выйгравалі смаргонцы, двойчы былі нічыі, розніца мячоў на карысць гаспадароў 12-5. У першым крузе "Смаргонь" перамагла на выездзе 2:0.

# ВІНШАВАНКІ

**Веры Пятроўне Зянько**
з 50-годдзем!



Без сна ночей ты провела немало,
Забот, тревог за нас не перечесть.
Земной поклон тебе, родная наша,
За то, что ты на свете есть.
За доброту, за руки золотые,
За материнский твой совет
Тебе желаем мы все дружно:
"Прожить, родная, до 100 лет!"
*Дачка, сын, нявестка.*

Паважаная **Зоя Троцкая**! Віншуем са святам! Жадаем здароўя, удачы, кахання, добрага настрою. *Ніна, Іра.*

Шчырую, абвяльную **Людмілу** з п. Партызанскі з днём нараджэння. Здароўя, здзяйснення мараў, верных сяброў, кахання. *Валодзя.*

Віншуем **Таццяну Жарнасек** і **Аляксея Крэмзу** з днём шлюбу! Жадаем здароўя, шчасця і вечнага кахання. З павагай *Баравая, Паўлоўская, Грышкевіч.*

**Наталля Казіміраўна**, з днём нараджэння! Будьте счастливы всегда, пока жывете вы на свете. *Рэгіна.*

**Ноне Пятроўне**
з 55-годдзем!
Дарагая любімая матуля,
бабулечка! Сардэчна віншуем
цябе з днём нараджэння!
Пусть сердце возрасту не поддается,
Пусть не страшат летящие года,
Пусть хорошо и счастливо живется,
И пусть здоровье радует всегда.
*З любоўю сын, дочкі, нявестка, зяці, унукі.*

**Аркадзію Геранімавічу Сабалеўскаму** з 50-годдзем!
Дарагі наш! Віншуем з юбілеем!
Желаем радости и счастья,
Здоровья крепкого вдвойне.
Желаем самого простого —
Прожить подольше на земле.
В преданье старом говорится:
Когда родится человек,
Звезда на небе загорится,
Чтобы светить ему весь век.
Так пусть звезда твоя сияет
По крайней мере лет до ста
И дом твой счастьем озаряет,
И радость будет в нем всегда!
*Твае жонка, сын і дачка.*

РЭКЛАМА

# Новая АЗС у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе адкрытая новая аўтазаправачная станцыя – па вуліцы Я. Купалы, 74. Сучасная АЗС з'явілася дзякуючы СП «United Company».**




Каля 10 год працуе на рынку нафтапрадуктаў сумеснае беларуска-амерыканскае прадпрыемства "United Company". Яно будуе аўтазаправачныя станцыі, ажыццяўляе іх далейшую эксплуатацыю, займаецца перавозкай нафтапрадуктаў і актыўна ўкараняе сістэму безнаяўнага абслугоўвання кліентаў у Беларусі, у краінах замежжа.

Свае мэты кампанія вызначае сцісла і трапна: максімальна поўнае задавальненне запытаў кліентаў. Таму "United Company" актыўна пашырае сетку АЗС, укараняе новыя тэхналогіі, якія дазволяць забяспечыць высокую якасць рэалізуемых нафтапрадуктаў.

Толькі гэтая фірма ўстанаўлівае на сваіх станцыях прыбор "Струна-М" вытворчасці інстытута касмічных даследаванняў – ён аўтаматычна адсочвае шчыльнасць ГЗМ у рэзервуарах.

Менавіта якаснае паліва прываблівае аўтааматараў да станцый кампаніі. Дасведчаныя людзі гавораць, што пасля заправак у "UC" рухавік машыны ніколі "не чхае". Нездарма толькі тут прадаецца "элітны" бензін А-98.

Тут вы можаце запраўляцца па прывабных цэнах усімі відамі бензіна і дызпаліва. Бліжэй да верасня – і газам, што немалаважна для горада. Прымяняюцца выгодныя для кліента розныя формы разліку: акрамя аплаты за наяўныя беларускія рублі, ёсць магчымасць аплаты безнаяўнымі сродкамі па электронных картах "Visa", "MasterCard", "Белкард".

Заключыць дагавор на абслугоўванне прыватнага аўтамабіля або аўтатранспарту фірмы, прадпрыемства шляхам безнаяўнага разліку можна на месцы, на АЗС. Гэты дагавор дазволіць вам запраўляць свой аўтамабіль на 137 аўтазаправачных станцыях па ўсёй тэрыторыі Беларусі. А электронная картка "United Company", набытая на АЗС, вызваліць вас ад лішніх праблем пры запраўцы аўтамабіля ў Маскоўскай, Смаленскай, Ленінградскай, Пскоўскай, Бранскай і Разанскай абласцях Расіі, а таксама ў Польшчы.

Дарэчы, у "UC" няма абмежаванняў у колькасці адпускаемага паліва. Пры наяўнасці крэдытнай карткі іншых фірм, на АЗС пры заключэнні дагавора выканаюць бясплатны абмен на картку "United Company". Непасрэдна на АЗС можна аформіць дагавор абавязковага страхавання або "зялёную карту" на любы аўтатранспарт. Прычым выканаюць гэта ў поўнай адпаведнасці з заканадаўствам РБ па дзяржаўных расцэнках.

У жніўні на станцыі пачнуць працаваць шынамантаж і сучасная аўтаматычная аўтамыйка. Будзе прысутнічаць увесь пералік адпаведных паслуг – ад элементарнай мыйкі да пакрыцця любімага "кадылака" ахоўным воскам.

Нават калі ў вас няма аўтамабіля, гэта не азначае, што вам тут няма чаго рабіць. У магазіне станцыі прадаюцца не толькі аўтапрылады, але і прадукты харчавання, тавары паўсядзённага попыту.

**Паважаныя аўтаўладальнікі, пачынайце свой дзень з АЗС «United Company»! Перад дальняй дарогай патрэбна заліць поўны бак, памыць і застрахаваць аўтамабіль, пераканацца, што электронная картка «UC» пры сабе. І ў добры шлях!**

**Даведкі па заключэнні дагавораў па тэл/факсе у Маладзечне 32801.**

Ліц. № 1125-р канцэрна «Белнафтахім» ад 3.05.2001 да 15.04.2004 г.

# ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з сур'ёзным мужчынам, пажадана ўдаўцом, для стварэння сям'і. Пра сябе: 49/170, Цялец. 231000, Смаргонь, а/с 13.

Прывабная жанчына, удава, пазнаёмлюся з самастойным мужчынам без шк/зв. Пра сябе: 53/164/80. Маладзечна-6, п/п МС0619261.

Сімпатычны мужчына 43/176/78, в/а, пазнаёміцца для сустрэч з прыгожай жанчынай да 40 год, з жыллём. Маладзечна-7, п/п МС0190340.

32/160/58, разведзеная, двое дзяцей, без шк/зв. Мару, што адгукнецца просты мужчына, які хоча жыць у згодзе, дабрыні. 222410, Вілейка-4, п/п МС0256878.

## Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

## Купон 31

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

